# Голас Радзімы

№ 26 (2116)
29 чэрвеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






Карыстацца паромам на Піне, дзе працуе Павел ЛУК'ЯНЧЫК, прыходзіцца многім жыхарам Іванаўскага раёна на Брэстчыне. Людзей і тэхніку, кармы для калгасных фермаў і дровы для сялян штодзень перавозіць гэты працавіты чалавек. Дваццаць тры гады аддаў Павел Аксэнтавіч старажытнай прафесіі.

Фота С. КРЫЦКАГА.

РЭХА ЧАРНОБЫЛЯ

## У ІНФАРМАЦЫЙНЫМ АГЛЯДЗЕ МАГАТЭ

У штодзённым інфармацыйным аглядзе «Дэйлі прэс рэв'ю», які выдаецца Міжнародным агенцтвам па атамнай энергіі (МАГАТЭ), змешчана карта радыяцыйнага забруджання тэрыторыі Беларускай ССР у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Яна была складзена ў гэтым годзе групай вучоных Інстытута эксперыментальнай батанікі і Інстытута радыебіялогіі Акадэміі навук БССР на аснове вызначэння ступені забруджанасці радыеактыўнымі элементамі розных відаў грыбоў. Апублікаванне гэтага матэрыялу выклікала вялікую цікавасць у МАГАТЭ.

У аглядзе МАГАТЭ ўказваецца, што радыеактыўнасць у Заходняй Еўропе ў цэлым знізілася ніжэй узроўняў, якія выклікаюць трывогу. Разам з тым наяўнасць такога радыеактыўнага элемента, як цэзій-137, у прыватнасці, у Швецыі, Фінляндыі і паўночнай часткі Вялікабрытаніі, працягвае выклікаць пэўны неспакой. Як адзначае «Дэйлі прэс рэв'ю», колькасць цэзію-137, які выпаў у выніку чарнобыльскай аварыі, напрыклад, над Швецыяй, перавысіла выпадзенне такога элемента ў выніку усіх выпрабаванняў ядзернай зброі, якія праводзіліся да гэтага.

АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА

## АДРАС «ШЫСТАНКІ» — ГОМЕЛЬ

Не так, як звычайна, будуць маркіравацца два апрацоўчыя цэнтры, выраб якіх пачалі рабочыя Гомельскага станкабудаўнічага аб'яднання: прадпрыемства стала адным з арганізатараў акцыянернага таварыства «Шыстанка».

У яго ўвайшла і вядомая нямецкая фірма «Шыс». З ёю падпісаны кантракт аб продажы на сусветным рынку беларускіх станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем, электроніку для якіх будуць пастаўляць партнёры з ФРГ.

Шлях да дзелавога супрацоўніцтва гамяльчанам адкрыла новая магчымасць развіваць самастойную камерцыйную дзейнасць на міжнародным рынку. Але каб весці размову з зарубежнымі партнёрамі, як роўнымі, запатрабавалася карпатлівая настойлівая работа над павышэннем канкурэнтаздольнасці прадукцыі.

Заробленую валюту гомельскія станкабудаўнікі мяркуюць выкарыстаць на набыццё найноўшага абсталявання і тавараў народнага спажывання для сваіх рабочых.

ДНІ ІНТЭРПРЭС

## ЗРУХ У СУПРАЦОЎНІЦТВЕ



Багатую палітру шырокіх сувязей нашай рэспублікі з ПНР дапоўнілі Дні польскага інфармацыйнага агенцтва Інтэрпрэс, аднаго з буйнейшых прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі брацкай краіны. Яны былі арганізаваны сумесна з Агенцтвам друку Навіны.

Разнастайнай была праграма Дзён Інтэрпрэс у Мінску і Гродне: выстаўкі фатаграфій, кніг, вечары дружбы, сустрэчы вядомых журналістаў ПНР у працоўных калектывах, уручэнне ганаровых знакаў агенцтва Інтэрпрэс актыўным прапагандыстам савецка-польскай дружбы, праграмы кіна- і відэафільмаў, семінары па актуальных праблемах грамадскага жыцця нашых краін.

Ініцыятар стварэння унікальнай па свайму эмацыянальнаму зараду кнігі-мемарыяла «Памяць», дзе сабраны імёны больш як 400 тысяч савецкіх воінаў, якія загінулі за вызваленне Польшчы, пісьменнік Януш Пшыманоўскі сустрэўся з сем'ямі салдат, якім яго шматгадовая праца дапамагла адшукаць магілы блізкіх, што пралілі сваю кроў на польскай зямлі, вярнуць з небыцця іх імёны.

Адкрыццё Дзён адбылося ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. На ім прысутнічаў генеральны консул ПНР у Мінску М. Абядзіньскі.

**НА ЗДЫМКУ: Я. ПШЫМАНОЎСКІ (справа) на выстаўцы польскай кнігі ў Мінску.**

ЭКАЛАГІЧНЫ МАРАФОН





**У Мінску стартаваў звышдальні рэспубліканскі экалагічны марафон. Яго траса — 810 кіламетраў. Маршрут пройдзе па беларускіх гарадах: Мінск — Бабруйск — Баранавічы — Навагрудак — Ліда — Маладзечна — Мінск.**

**На першым яго этапе разам з беларускімі калегамі ў марафоне прынялі ўдзел члены заходнегерманскага таварыства «Робін Вуд».**

**НА ЗДЫМКАХ: звышдальні марафонскі экалагічны прабег пачаўся; аўтограф на памяць дае член заходнегерманскага таварыства «Робін Вуд» Гундула БАРО з Гамбурга (у цэнтры).**

КАРТАГРАФІЯ

## ВЫДАДЗЕНА Ў ЗША

Выклікае цікавасць нядаўна выдадзены ў Нью-Йорку карпарацыяй «Амерыкен мэп карпарэйшн» унікальны «Вялікі атлас свету». З'явіўся ён у выніку шматгадовай сумеснай работы амерыканскіх і еўрапейскіх вучоных.

Уключаная ў атлас карта Мінскай вобласці знаёміць замежнага чытача з сацыяльна-эканамічнай структурай рэгіёна, яго вялікімі і малымі гарадамі, са шляхамі зносін паміж імі, структурай воднага басейна і г. д.

ПАСЛУГІ СКАЛАЛАЗАЎ

## УЗЫХОДЖАННЕ БЕЗ ЛЕДАСЕКА

Вяршыні, дастойныя альпіністаў самага высокага класа, выявілі ў Беларусі скалалазы-разраднікі клуба «Вертыкаль» Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання. Узброіўшыся сучасным горным рыштункам і будаўнічымі інструментамі, яны пернымі ў рэспубліцы пакарылі вышыні заводскіх цэхаў, недаступныя раней для рамонту. У лічаныя дні альпіністы прывялі ў парадак будынак, прычым без спынення вытворчага працэсу.

Дапамога пакарыцеляў вяршынь у рэстаўрацыі прамысловых збудаванняў дасць клубу магчымасць зарабіць грошы, вырашыць свае фінансавыя праблемы.

Зацікавілася новай справай і адміністрацыя, якая атрымала згоду кіраўнікоў «Вертыкалі» на заключэнне дагавораў аб рамонце і будаўніцтве вышынных аб'ектаў іншых арганізацый. Частка заробленых «прамысловымі» альпіністамі сродкаў паступіць у заводскую казну. А цяпер для авалодання будаўнічымі спецыяльнасцямі групу скалалазаў за кошт прадпрыемства адправілі на вучобу ў Кіславодск.

АКТУАЛЬНАЕ Ў ПРЭСЕ

# ПАРА РАБІЦЬ САМАСТОЙНЫЯ КРОКІ

Рэспубліканская газета «Звязда» пад загалоўкам «Дэфіцыт, цэны, кааперацывы...» надрукавала гутарку са старшынёй Дзяржплана БССР, народным дэпутатам СССР Вячаславам Кебічам. У рубрыку вынесена сутнасць размовы — эканамічная рэформа: дыялогі аб самым надзённым.

У прыватнасці, закранута вельмі вострая праблема павышэння жыццёвага ўзроўню савецкіх людзей. Карэспандэнт заўважыў, што, хаця аб'ёмы вытворчасці лёгкай прамысловасці растуць у год у сярэднім на 5—6 працэнтаў, у магазінах па-ранейшаму нельга купіць патрэбныя тавары.

У сваім адказе В. Кебіч адзначыў, што прычын тут шмат. Адна з іх — рэзкае апярэджанне росту заработнай платы ў параўнанні з ростам і аб'ёмаў вытворчасці, і прадукцыйнасці працы. Напрыклад, у прамысловасці рэспублікі ў першым квартале сёлета пры павышэнні прадукцыйнасці на 5,4 працэнта зарплата павысілася на 9,4 працэнта. І першая, і другая мадэлі гаспадарчага разліку, калі на іх уважліва паглядзець, грунтуюцца на вартасных валавых аб'ёмах. А гэта — прамы шлях да цэнавых безнатурных накачак. Цяпер сітуацыя паляпшаецца. Прыняты меры па больш дакладнаму рэгуляванню суадносін росту зарплаты і прадукцыйнасці працы. Але вырашыць праблему так хутка, як гэтага хацелася б, без развіцця матэрыяльнай базы не ўдасца. Для гэтага робіцца неабходныя захады і па лініі інвестыцый, і па перапрафіліраванню прадпрыемстваў па выпуску прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння.

Ёсць тут і іншыя пытанні, сказаў В. Кебіч, звязаныя, у прыватнасці, з размерам паставак тавараў у цэнтралізаваныя фонды, іх вывазам і г. д. Не вельмі справядлівым выглядае, напрыклад, тое, што пры значным незадаволеным попыце насельніцтва рэспублікі па разнарадцы саюзных органаў вывозіцца больш як 80 працэнтаў выпрабленых у нас халадзільнікаў і тэлевізараў, трэць мэблі і трыкатажных вырабаў, чвэрць абутку і г. д. У многім гэтыя пытанні будуць упарадкаваны пры пераходзе рэспублікі на самакіраванне і самафінансаванне. Але ставіць пытанне: ці не з'яўляецца наша рэспубліка кармушкай для іншых? — сама меней некарэктна. Усе нашы рэспублікі жывуць і развіваюцца ў адзіным народнагаспадарчым комплексе краіны і эканамічна звязаны па многіх напрамках. Можна ў сувязі з гэтым нагадаць: штогод у Беларусь завозіцца, напрыклад, 3,5—4 мільёны тон збожжа, звыш 50 тысяч тон бавоўны, больш за 2,5 мільёна тон пракату чорных металаў, 3—3,4 мільёна тон вугалю, да 10 мільярдаў кубічных метраў прыроднага газу, 3 мільёны тон цэменту і г. д. Іншая справа, што гэтыя адносіны трэба ўпарадкаваць, паставіць на ўзаемавыгадную, гаспадарча мэтазгодную, эканамічна зацікаўленую аснову. Рэгіянальныя прынцыпы гаспадарання дапамогуць пазбавіцца ад неабходнасці сачыць за тым, хто больш адарваў ад агульнасаюзнага пірага. Кожны рэгіён пра свой пірог павінен будзе клапаціцца перш за ўсё сам, а ў суседзяў будзе імкнуцца толькі пераняць усё добрае і хутчэй укараніць у сябе.

У адказе на пытанне пра бюджэтны дысбаланс старшыня Дзяржплана рэспублікі падкрэсліў: бюджэт саюзнай рэспублікі з'яўляецца састаўной часткай агульнадзяржаўнай бюджэтнай сістэмы і звязаны з ёю шматлікімі каналамі плацяжоў, асігнаванняў, размеркавання і пераразмеркавання фінансавых рэсурсаў. Таму дэфіцыт бюджэту краіны ў цэлым не можа прайсці бясследна і для нашай рэспублікі. На сесіі Вярхоўнага Савета БССР пры разглядзе праекта Дзяржаўнага бюджэту на 1989 год адзначалася, што даходная частка бюджэту не збалансавана з расходнай на 550 мільёнаў рублёў. Аднак гэта не азначае, што рэспубліка сябе не акупляе. Аб'ём гэтай незбалансаванасці склаўся ва ўмовах, калі, напрыклад, 29 працэнтаў, або амаль 1,8 мільярда рублёў падатку з абароту, рэспубліка павінна перадаць у саюзны бюджэт. Калі б часткова зменшыць толькі гэты плацеж, дык ніякай незбалансаванасці ў нас не было б. Ды і наогул, пра які дэфіцыт можа ісці размова, калі штогадовае перавышэнне атрыманага ў нас нацыянальнага даходу над нацыянальным даходам, што выкарыстоўваецца на спажыванне і накапленне, складае больш за 3,5 мільярда рублёў.

В. Кебія заўважыў, што ён сапраўды пераканаваны прыхільнік пераходу рэспублікі на рэгіянальны гаспадарчы разлік. Ён падкрэсліў, што рэспублікі выраслі ўжо з дзіцячага ўзросту, калі ім нельга было абысціся без апекі цэнтра ва ўзаемных інтарэсах. Як бывае ў жыцці? Сталее, пакідае бацькоўскі дом дзіця. Што яно страчвае? Страчвае апеку, страчвае падтрымку з боку сваіх бацькоў. Але без гэтага яно па-сапраўднаму не пасталее. А там чалавек і сам пачынае спраўляцца. Так і ў пытаннях эканамічнай самастойнасці.

*НАТАТКІ З ВЫСТАЎКІ «ПАРАШКОВАЯ МЕТАЛУРГІЯ-89»*

# ГАНДЛЯВАЦЬ ПАКУЛЬ ТОЛЬКІ ВУЧЫМСЯ

Міжнародныя выстаўкі праводзяцца ў сталіцы Беларусі даволі часта. Але да традыцыйнай ужо «Парашковай металургіі» ў мінчан адносіны асаблівыя. Яшчэ ў пачатку 70-х гадоў, калі развіццё навукова-тэхнічнага прагрэсу запатрабавала стварэнння новых матэрыялаў, беларускія вучоныя і інжынеры першымі ў краіне пачалі актыўна асвойваць такую галіну, як парашковая металургія. Затым яна стала развівацца і ў іншых рэгіёнах. У той час матэрыяльная база новай галіны была яшчэ слабай, ды і навуковыя даследаванні толькі пачыналіся. Многія краіны ў гэтых адносінах рушылі далёка наперад. І вялікая заслуга беларускіх спецыялістаў заключала ся ў тым, што яны наладзілі кантакты з калегамі на Захадзе і ў 1973 годзе здолелі арганізаваць у Мінску першую міжнародную выстаўку «Парашковая металургія». Гэта дазволіла нашым спецыялістам пазнаёміцца з новымі тэхналогіямі, наладзіць кантакты для навуковага супрацоўніцтва, заключыць кантракты на набыццё неабходнага прамысловага абсталявання. З таго часу правядзенне такіх выставак у Мінску кожныя чатыры гады і стала традыцыйным.

Папярэднія, на думку савецкіх і замежных спецыялістаў, а таксама прадстаўнікоў фірм-удзельніц, прайшлі паспяхова. Адбыўся абмен навукова-тэхнічным і прамысловым вопытам у гэтай галіне металургіі, якая цяпер інтэнсіўна развіваецца. Так, выстаўкі «Парашковая металургія-81» і «Парашковая металургія-85» наведала сорак тысяч чалавек, з іх трыццаць тысяч—спецыялісты. Кошт закупленых экспанатаў перавысіў два мільёны рублёў, заключаны кантракты на пастаўку абсталявання, апаратуры, матэрыялаў на суму чатыры мільёны чатырыста тысяч рублёў. Як бачым, лічбы значныя. На жаль, аднабаковыя: мы купляем, яны прадаюць.

Але час не стаіць на месцы. У канцы мая плошча каля новага выставачнага комплексу Гандлёва-прамысловай палаты БССР у Мінску ярка расквецілася флагамі адзінаццаці дзяржаў: адкрылася пятая па ліку выстаўка «Парашковая металургія-89». Праходзіла яна ўжо ў іншых умовах, адзначаных нарастаючым развіццём міжнародных сувязей савецкіх прадпрыемстваў і арганізацый з замежнымі партнёрамі. Гэта знайшло самае непасрэднае адлюстраванне і ў экспазіцыі выстаўкі: упершыню на ёй арганізаваны савецкі раздзел. Дарэчы, ён самы вялікі, і ўдзельнічала ў ім шэсцьдзесят восем прадпрыемстваў і арганізацый краіны. Сярод іх вядучае месца займалі экспанаты Беларускага навукова-вытворчага аб'яднання парашковай металургіі.

Нават на неспецыяліста выстаўка зрабіла ўражанне. Вялікая зала на паўтары тысячы квадратных метраў была шчыльна запоўнена рэкламнымі стэндамі і экспанатамі. Сваю прадукцыю прадстаўлялі сорак дзве фірмы з Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Швецыі, Швейцарыі, ФРГ і іншых развітых еўрапейскіх краін. На выстаўку прыехала многа спецыялістаў не толькі з усіх канцоў Савецкага Саюза, але і з іншых сацыялістычных краін, дзяржаў Азіяцка-Ціхаакіянскага рэгіёна, для якіх на базе выстаўкі эканамічная і сацыяльная камісія ААН правяла сімпозіум «Новыя матэрыялы для рэгіёна». Асабліва многа працы было ў перакладчыкаў—літаральна ля кожнага стэнда вяліся ажыўленыя перагаворы. Зрабіла яна вялікае ўражанне і на спецыялістаў, з многімі з якіх мне давялося гутарыць.

— Цяперашняя выстаўка самая прадстаўнічая з усіх, якія калі-небудзь праводзіліся ў гэтай галіне,—сказаў прадстаўнік швейцарскай фірмы «Плазма тэхнік» Экехард Шварц. — Наша фірма і я сам удзельнічаем у выстаўках у Мінску з самага пачатку, гэта значыць пяты раз, і вельмі добра бачым, наколькі ўсё тут у вас мяняецца да лепшага. Непазнавальна пахарашэў горад, значна пашырыліся яго магчымасці ў правядзенні розных міжнародных мерапрыемстваў. Узяць хаця б гэты новы выставачны комплекс. У ім ёсць усё неабходнае для работы і адпачынку людзей, якія працуюць на выстаўцы, выдатныя магчымасці для дэманстрацыі абсталявання. Гэта для нас вельмі важна, паколькі мы зацікаўлены прадставіць, так сказаць, тавар лепшым чынам і прадаваць свае вырабы. Дарэчы сказаць, ужо пасля першай выстаўкі мы пачалі пастаўляць сваё абсталяванне ў вашу краіну і вельмі зацікаўлены ў расшырэнні такіх паставак. Аднак да апошняга часу заключэнне кантрактаў было цяжкай працэдурай, і цягнулася яна доўга. Нам не зразумела, чаму прадпрыемства, якому патрэбна гэта абсталяванне, не можа само кантактаваць з намі, а павінна атрымліваць дазвол у розных ведамствах. Спадзяёмся, што цяпер сітуацыя зменіцца.

— Мы таксама спадзяёмся, што перабудова, якая адбываецца цяпер у вашай краіне ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці і ўсяга гаспадарчага механізма, значна [illegible]сціць нашы адносіны,— дадаў прадстаўнік заходнегерманскай фірмы «Крэмер» Эрвін Квадэ.—Ужо цяпер адчуваюцца станоўчыя перамены. У апошнія гады мы атрымалі магчымасць кантактаваць са значна большай колькасцю савецкіх арганізацый, вашымі вядучымі спецыялістамі. Раней жа, напрыклад, мы запрашалі вашых прадстаўнікоў на які-небудзь навуковы семінар ці канферэнцыю, а яны па незразумелых прычынах не прыязджалі. Для нас гэта было дзіўна, таму што развіццё сучаснай навукі і тэхнікі немагчыма без пастаянных кантактаў спецыялістаў розных краін. Цяпер усё больш вашых прадстаўнікоў бывае ў нас, і мы самі можам больш вольна ездзіць па вашай краіне, сустракацца з тымі, з кім нам хочацца. Мы пастаўляем вам печы спякання прасаванага металічнага парашку высокай тэмпературы, у вытворчасці якіх наша фірма займае вядучае месца ў свеце. Сёння наша прадукцыя працуе на вашых буйнейшых аўтазаводах. Ёсць нашы печы і ў Беларусі. Вядома, хацелася б расшыраць кантакты. Савецкі Саюз—надзейны партнёр. Але толькі пасля таго, як афіцыйна падпісаны кантракт. А бывае так, што ад вуснай дамоўленасці да падпісання кантракта праходзяць год-два. Вы самі губляеце на гэтым, бо за такі час тэхналогія значна мяняецца.

— Наша фірма толькі другі раз прымае ўдзел у выстаўцы «Парашковая металургія», — сказаў прадстаўнік швейцарскай фірмы «АЖІ» Даніэль Сервалі. —Але кантакты з вашай краінай мы падтрымліваем ужо каля трыццаці гадоў. За гэты час мы прадалі ў Савецкі Саюз каля тысячы станкоў для электраэразійнай апрацоўкі дэталей складаных форм з цвёрдых сплаваў, у тым ліку і на некаторыя прадпрыемствы ў вашай рэспубліцы. У Маскве ёсць наша прадстаўніцтва і тэхналагічны цэнтр, дзе праходзяць падрыхтоўку савецкія спецыялісты. Плануем адкрыць невялікія аддзяленні і ў іншых гарадах. Паколькі ў фірмы «АЖІ» даўнія і плённыя сувязі з вашым Беларускім аб'яднаннем парашковай металургіі, думаю, што адно з такіх аддзяленняў будзе адкрыта ў Мінску. Гэтыя пытанні цяпер вырашаюцца, і я спадзяюся, што вынік будзе станоўчым.

Прызнаюся, прыемна было пачуць, што наша рэспубліка мае сувязі з многімі паважанымі фірмамі іншых краін. Разам з тым пасля гэтых размоў з'явілася і нейкае пачуццё прыкрасці. Зразумела, што прадстаўнікі фірм хваляць сваю прадукцыю, што ім выгадна прадаваць яе нам. Ну, а што ж мы самі? Толькі купляем? Для чаго ж тады [illegible]лыя інстытуты і аб'яднанні парашковай металургіі ў розных гарадах? З гэтымі пытаннямі я звярнуўся да генеральнага дырэктара Беларускага навукова-вытворчага аб'яднання парашковай металургіі Алега Рамана.

— Гэта зусім не так, хаця ў нас і існуе нямала праблем,—сказаў Алег Уладзіслававіч. — Аб развіцці парашковай металургіі ў нас у краіне і у Беларусі, у прыватнасці, гавораць хаця б такія факты. Буйнейшая выстаўка ў гэтай галіне традыцыйна праводзіцца ў Беларусі менавіта таму, што яна адзін з буйнейшых цэнтраў парашковай металургіі не толькі ў краіне, але і ў свеце. Менавіта таму праводзіць тут свой рэгіянальны сімпозіум Арганізацыя Аб'яднаных Нацый. У нас у краіне цяпер рост вытворчасці вырабаў парашковай металургіі складае 12—15 працэнтаў у год, што перавышае тэмпы росту любой іншай галіны.

У савецкім раздзеле выстаўкі экспанаты Беларускага навукова-вытворчага аб'яднання парашковай металургіі займаюць адно з вядучых месцаў. Тут прадстаўлены распрацоўкі па абсталяванню і тэхналогіі для вытворчасці вырабаў з металічных парашкоў, нанясення ахоўных пакрыццяў, вырабу порыстых пранікаемых матэрыялаў, канструкцыйныя, фрыкцыйныя і антыфрыкцыйныя парашковыя дэталі, вырабы з керамічных матэрыялаў, зносастойкія матэрыялы, шматслойныя кампазіцыі, прыборы і абсталяванне для даследавання парашковых матэрыялаў і вырабаў. Усё гэта ўжо цяпер выкарыстоўваецца ў народнай гаспадарцы і прыносіць вялікі эканамічны эфект.

Цяпер аб міжнародным супрацоўніцтве і гандлі,—працягвае Алег Уладзіслававіч.—У былыя часы можна было б сказаць, што і тут усё нармальна. Мы шырока супрацоўнічаем з усімі сацыялістычнымі краінамі. З многімі маем сумесныя прадпрыемствы, большасці прадаём свае вырабы. Дарэчы, за ўклад у справу развіцця і супрацоўніцтва наша аб'яднанне адзначана міжнародай прэміяй «Залаты Меркурый». Цесныя сувязі наладжаны з Індыяй, дзе ствараецца сумесны цэнтр парашковай металургіі. Падтрымліваюцца кантакты і з большасцю вядучых заходніх фірм. Вось тут становішча нас не задавальняе. Навуковае супрацоўніцтва развіваецца добра. Напрыклад, тая ж фірма «Плазма тэхнік» ужо з 1977 года робіць шэраг распрацовак сумесна з намі. Вядзём мы з імі двухбаковы гандаль, прадаём парашок, які вырабляецца на нашым заводзе ў Маладзечне. На жаль, потым нярэдка закупляем вырабы, выпушчаныя з гэтага парашку. Чаму? Справа ў тым, што наша навука ў галіне значна абагнала развіццё матэрыяльнай базы. Мы маем тэхналогіі па ўсіх працэсах на сусветным узроўні, шэраг тэхналогій, якіх заходнія фірмы ўвогуле не маюць і з задавальненнем у нас бы купілі. Аднак існуючы дасюль ведамасны падыход у прамысловасці значна замаруджвае ўкараненне гэтых тэхналогій. Большасць абсталявання, якое мы закупляем, мы маглі б рабіць самі, калі б не бюракратычныя бар'еры. Трэба прызнацца, што перабудова ў галіне знешнеэканамічных адносін заспела нас неспадзеўкі. Раней усё рабілася цэнтралізавана, цяпер катастрафічна не хапае людзей, якія б ведалі кан'юнктуру рынку, умелі б гандляваць. Цяпер мы толькі вучымся гэтаму. І ўсё ж я гляджу ў будучыню аптымістычна. Нашы тэхналогіі даюць значную эканомію ў вытворчасці. У ходзе эканамічнай рэформы ўсё больш прадпрыемстваў цікавіцца імі. Значыць, і машынабудаўнікам становіцца выгадна вырабляць распрацаванае намі абсталяванне. Яно, як я ўжо сказаў, па многіх параметрах перавышае заходнія ўзоры. Значыць і гандлёвы баланс будзе мяняцца. Упэўнены, што калі перабудова будзе весціся так, як намечана, то адбудзецца гэта ў бліжэйшыя некалькі гадоў.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# КАБ ДЗЕНЬ БЫЎ ДОБРЫ

У роднай бацькоўскай хаце на досвітку спіцца асабліва соладка, без сноў. Ды нечакана да слыху — да самага сэрца — прарываецца птушыны шчэбет. Не, гэта не сініцы... Ві-ць-ві-ць, цё-ох, — на самай высокай ноце саліруе нябачны спявак. Расчыняю акно. З зялёнага роснага куста парэчак успырхвае маленькая шэрая птушка. Няўжо салоўка?! Як жа даўно я не чула!..

Нясцерпна, як некалі ў маленстве, захацелася выбегчы з хаты басанож, адчуць пад ступнямі золкую прахалоду, летуценна пра сябе вымаўляючы: «Добрага ранку, новы сонечны дзень!»

— Добрага ранку! — чуецца наяве звонкі дзіцячы голас.

Гэта Наташа, суседка. Завіхаецца ў двары. Дзяўчынцы гадоў дванаццаць, а мо і няма пакуль. Што яе змусіла ўстаць прыпанач — пад раніцу ж так соладка спіцца?!

Наташа толькі што падаіла карову. Бразгаціць падойнікам, вымывае, вешае на плоце цадзілку. Аберуч бярэ вялікі пяцілітровы слоік і, прыціскаючы да грудзей — белапеннае жывое мора калыхаецца, крый божа, разліць хоць кропельку цудадзейнага пітва, — выходзіць на дарогу. Вось-вось пад'едуць фурманкаю малаказборшчыкі...

А потым я бачу, як дзяўчынка, весела размахваючы партфелем, бяжыць у школу. Падскоквае на галаве яе вялікі белы бант... Потым на веласіпедзе, ужо надвячоркам, спяшаецца на ферму. Там працуюць тата і мама. Наташа ім дапамагае.

Вечарам мы сустракаемся зноў. Я знарок прыходжу да іх хаты. Мне вельмі падабаецца гэтая дзяўчынка-працаўніца!

Ідзе-гудзе каляровы тэлевізар. Наташа складвае ў партфель падручнікі і падтанцоўвае ў такт музыцы. Пытаю, ці ўсе ўрокі вывучыла. Дзяўчынка махае рукой: нічога не задавалі. Так, паўтарэнне. Паўтараць яна не дужа любіць. Добрая мастацкая кніжка ў руках нячаста: усё ж такі вёска — не горад, але калі «нарвецца», то прачытвае ўмомант. Зусім нядаўна патрапіліся грынаўскія «Пунсовыя ветразі». «Якая цудоўная кніга!» — задуменна выказвае дзяўчынка, і вочы зіхацяць таямнічым святлом.

Не вытрымліваю, зноў пытаю:

— Табе хацелася б кудынебудзь паехаць?

— Так. У піянерскі лагер. Я ніколі там не была.

...Сталася так, што літаральна праз дзень пасля майго кароткага гасціявання ў роднай вёсцы пад Пінскам, пасля сустрэч з шасцікласніцай Наташай Наварай, службовыя справы паклікалі ў піянерскі лагер «Зубраня». Знаходзіцца ён у маляўнічым сасновым бары, на беразе цііхага празрыстага возера Нарач. Тут якраз праводзілі свой чарговы збор юныя інтэрнацыяналісты Беларусі, хлопчыкі і дзяўчынкі з усіх абласцей рэспублікі, актывісты клубаў інтэрнацыянальнай дружбы, равеснікі Наташы.

Першае, што кінулася ў вочы: як многа ў нас прыгожых дзяцей! Гэта ўражанне дапаўнялася маладой пяшчотнай зелянінай, якая бывае толькі на ўзмежку вясны і лета. Цвіценнем траў. Высокім блакітам над галавою.

Амаль паўгода ў «Зубраняці» жывуць дзеці з Арменіі. Вучацца. Набіраюцца сіл. Школьніца Армінэ Хачатуран сказала: «Да землетрасення мы і не чулі, што існуе такі цудоўны лагер «Зубраня». Мы нічога не ведалі пра дабрыню і чуласць беларусаў. Цяпер будзем ведаць, ніколі не забудзем».

Яны былі разам не толькі ў часы ўрачыстасцей, беларускія і армянскія дзеці. Я бачыла, як Алена Кароль гушкала маленькую Гаянэ, а Дзяніс Лазараў клапатліва зашпільваў усе гузікі хлопчыку гадоў трох-чатырох: з возера цягнула прахалодаю.

Яны разам гулялі ў вясёлыя захапляючыя гульні. Вадзілі карагоды. Некалькі хлопчыкаў-армян затрымаліся ў майстэрні «Беларускі сувенір». Увагу прыцягнуў стол з ільняною пакляю. Такі матэрыял яны бачылі ўпершыню. Не верылі: з гэтых кудлаў можа выйсці зграбны конік?!

Глядзелі, як на вачах нараджаецца дзівосная цацка-сувенір. Паспрабавалі зрабіць гэтаксама. Атрымался толькі ў аднаго. Яго сябар ніколечкі не засмуціўся. Узяў грабянец і давай прычэсваць грывы ўсяму табуну. Каб прыгожа было...

Дзеці малявалі і праектавалі дамы дружбы. Яны горача спрачаліся і вялі паміж сабою доўгія даверлівыя размовы. Гаварылі і пра родную мову, пра свой край, пра дружбу паміж усімі людзьмі. У падрастаючых грамадзян з'яўляюцца «дарослыя» клопаты і думкі.

**Алена ТРУСАВА.**

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# АД ПРАЎДЫ НІКУДЫ НЕ ЎЦЯЧЭШ

Дарагія сябры, суайчыннікі, супрацоўнікі «Голасу Радзімы»! Перш за ўсё хачу сказаць вам дзякуй за тое, што не забываеце мяне ў маіх сталых гадах. Хаця і даводзіцца ўзбройваць вочы моцнымі акулярамі, а іншы раз і павелічальным шклом, але ўсё роўна ваша газета — заўсёды жаданы госць у нашым доме, і я прачытваю яе ад першай да апошняй старонкі. Яна многія гады расказвае нам аб розных падзеях на Беларусі, адлюстроўвае жыццё савецкай краіны. Без гэтага мы, адарваныя ад Радзімы, не можам жыць. Але асабліва цікава стала чытаць газету цяпер, калі ўсё жыццё ў нас на Радзіме становіцца на зусім новыя рэйкі.

Мы многа разоў бывалі ў Савецкім Саюзе. І, вядома, помнім, якой была краіна, калі нам давялося яе пакінуць, добра бачылі, якія перамены там адбыліся, якіх вялікіх поспехаў яна дамаглася. І мы ганарыліся гэтым, радаваліся за свой народ. Але няма чаго граху таіць, да гэтай радасці і гонару заўсёды прымешвалася і пачуццё горычы і засмучэння. Мы сутыкаліся з бюракратамі, якія ставяць паперку вышэй за інтарэсы чалавека. Даводзілася бываць у калгасах. Мы самі фермеры, таму сельская гаспадарка заўсёды выклікала асаблівую цікавасць. Дык вось, ужо многа гадоў назад я прыйшоў да высновы, што пры існаваўшых тады парадках калгасы доўга пражыць не змогуць і што толькі вышэйшая ўлада зможа змяніць гэтае безнадзейнае становішча, што, да нашай вялікай радасці, і адбываецца цяпер.

Перабудова — гэта слова стала сімвалам не толькі ў вас у краіне, але і ў многіх іншых. У нас, напрыклад, яно нават не перакладаецца на англійскую мову. Вельмі хацелася б, каб вы дабіліся ў гэтых адносінах поспехаў. Нас радуе, што цяпер у сельскай гаспадарцы з'явіліся арэнда і брыгадны падрад, што людзей стараюцца зацікавіць работай: вяртаюць ім званне гаспадароў сваёй зямлі. Раней жа ў калгаснікаў не было ні да чога ніякай цікавасці. Я, бачачы нядбайныя адносіны да ўсіх праблем з боку мясцовага начальства, спрабаваў закранаць пытанне з радавымі калгаснікамі і гаварыў ім: «Няўжо вы не можаце куды-небудзь паскардзіцца на ўсе гэтыя беспарадкі?» А яны мне адказвалі: «Ідзі паспрабуй, дык там, сярод белых мядзведзяў, яшчэ знойдзецца месца такому. Лепш маўчы і клапаціся сам пра сябе». Вось такое было становішча ў калгасах. А начальнікі вельмі раскошна жылі.

Я думаю, што і цяпер іх пакуль яшчэ не вельмі турбуюць. А дзяржава вымушана купляць пшаніцу і іншыя прадукты за мяжой. Ганьба тым кіраўнікам, якія давялі краіну да такога становішча. У нашага народа слаўная гісторыя. Нашы прадзеды, прыгонныя сяляне, не скарыліся Банапарту, нашы сучаснікі перамаглі фашызм. Гэта я да таго, што наш народ рабіў тое, чаго не маглі зрабіць іншыя. І калі такі народ да гэтага часу не можа жыць заможна, то вінавата ў гэтым толькі нядбайнасць кіраўнікоў. Гэтых вінаватых трэба выявіць і прыцягнуць да адказнасці. Бо ленінская ідэя кааперацыі сама па сабе вельмі добрая. Толькі калектывам можна дабіцца лепшых вынікаў. І калі б у калгасах кожны добрасумленна выконваў свае абавязкі, то мноства прадуктаў у краіне з'явілася б вельмі хутка. Але пакуль, на вялікі жаль, справы ідуць, як у старой легендзе: не было цвіка, падкова прапала. Падкова прапала, конь закульгаў. Конь закульгаў, камандзір забіты, конніца разбіта, армія бяжыць. Вораг уступае ў горад, палонных не літуючы, адтаго, што не было патрэбнага цвіка. Так і нядбайнасць людзей губіць багацце. А наша ж Радзіма вялікая, ёй няма канца і краю. І нельга сказаць, што індустрыя не забяспечыла працаўнікоў палёў усім неабходным. Але ад праўды нікуды не ўцячэш.

Вы мяне, дарагія сябры, прабачце, што я закранаю гэтыя пытанні, напэўна, для вас не надта прыемныя. Я ўжо стары чалавек, і жыццё маё прайшло ў асноўным тут, на чужыне. Але я ўсёй душой за ленінскі ідэі і супраць тых, хто, прыкрываючыся імі, клапоціцца толькі аб уласным дабрабыце. У іх за кошт дзяржавы ёсць і машыны, і дачы, дзе яны і праводзяць час, замест таго каб рупіцца пра людзей і краіну. Я мог бы вам паведаміць нямала фактаў, бо сам многае бачыў. Таму мы так радуемся, што перабудова пачала ўсё мяняць.

Нельга не сказаць і аб тых таленавітых людзях, якімі багата наша Радзіма, чыімі рукамі, чыёй працай у краіне створана шмат цудоўнага. Ёсць на што паглядзець і іншым паказаць. Узяць хаця б мой родны Брэст. Яго ж зусім не пазнаць. Які прыгожы горад! Гэта праца маіх суайчыннікаў. У нашай Радзімы мільёны дастойных дачок і сыноў, і, па-мойму, яны могуць і павінны вычысціць са свайго асяроддзя ўсіх дармаедаў. Нельга, каб карыслівыя людзі тармазілі развіццё такой вялікай краіны. Усё гэта я пішу таму, што тут, за мяжой, вельмі многа такіх, хто б хацеў бачыць на нашай Радзіме толькі дрэннае. Але цяпер, калі вы самі пачалі так актыўна і паслядоўна выкараняць свае недахопы, ім ужо няма пра што гаварыць. Я ўсёй душой падтрымліваю палітыку Камуністычнай партыі на чале з Міхаілам Гарбачовым, якая пачала перабудову.

**Аляксей ГРЫЦУК.**
Канада.

ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ

# ЯШЧЭ АДНА АЛЬТЭРНАТЫВА

Каб адразу было ясна, пра што пойдзе гаворка, адзначым, што тэма гэтага гістарычнага нарыса звязана з артыкулам «Альтэрнатыва», надрукаваным у «Голасе Радзімы» ў мінулым годзе (№ 15-16). У ім, напомнім, аўтар ставіў задачу, абапіраючыся на дакументы, паказаць, што ж проціпастаўлялі нацыянальнай праграме бальшавікоў, якія ўзялі дзяржаўную ўладу, арганізацыі, што групаваліся вакол Беларускай рады.

Але справа ў тым, што свой варыянт вырашэння «беларускага пытання» прапаноўвалі не толькі радаўцы, апантаныя ідэяй стварэння Беларускай народнай рэспублікі, але і тыя, хто меў уладу ў Польскай дзяржаве, якая адрадзілася ў канцы 1918 года. Тагачасная Польшча, за якой стаялі дзяржавы Антанты, у 1919—1920 гадах сілай зброі спрабавала рэалізаваць сваю тэрытарыяльную праграму. Гэта, напомнім, ускладніла савецка-польскія адносіны на наступныя цэлыя два дзесяцігоддзі, нягледзячы на савецка-польскі мірны дагавор, заключаны ў Рызе 21 сакавіка 1921 года.

Вядучыя буржуазныя палітычныя партыі Польшчы ў цэлым сыходзіліся на думцы, што ў ажыццяўленні «тэрытарыяльнай палітыкі» неабходна кіравацца мэтамі стварэння «вялікай польскай дзяржавы як рашаючага фактара на Усходзе Еўропы». Паўставала, аднак, пытанне, якімі матывамі на афіцыйным узроўні павінна апраўдвацца такая адкрыта экспансіяністская палітыка, бо ў межы Польскай дзяржавы меркавалася ўключыць землі, дзе прадстаўнікі польскай нацыянальнасці складалі меншасць.

У залежнасці ад сацыяльных слаёў грамадства, інтарэсы і памкненні якіх прадстаўлялі палітычныя партыі, вызначаліся метады і сродкі вырашэння «гістарычнай задачы». У цэлым вырысоўваліся два асноўныя падыходы: федэралізм і інкарпарацыя. У залежнасці ад палітычнай сітуацыі ў краіне, становішча на фронце цярпелі эвалюцыю аргументацыя і ступень папулярнасці кожнай з гэтых дактрын. На першым этапе вайны на Усходзе польскія палітыкі многа пісалі і гаварылі аб федэрацыі. Гэтая ідэя была афіцыйна выказана Ю. Пілсудскім у звароце «Да жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага» ў красавіку 1919 года. Палякі ідуць у Беларусь і Літву як «роўныя да роўных, як вольныя да вольных», каб вызваліць іх з-пад чужога прыгнёту. Ажыццяўляючы сваю «вызваленчую місію», Польшча мае намер аб'яднаць вакол сябе суседнія народы не шляхам пакарэння, а на падставе добраахвотнасці, прызнання іх правоў на самавызначэнне, аказання ім арганізацыйнай, эканамічнай і іншай дапамогі. У маі таго ж года польскі сейм, заканадаўчы орган дзяржавы, адабраючы праграму Ю. Пілсудскага, зрабіў заяву аб тым, што Польская рэспубліка не мае намеру да «дзяржаўнага цела Польшчы» насільна далучыць былыя землі Вялікага княства Літоўскага.

Так званая федэралісцкая канцэпцыя з'яўлялася па сутнасці сістэмай поглядаў, прапагандысцкіх пастулатаў, што тычылі грамадскага ладу і дзяржаўнай прыналежнасці тэрыторый, якія планавалася ўключыць у склад Польскай дзяржавы. «Федэралісты» не маглі не лічыцца з ростам папулярнасці ідэі нацыянальнага раўнапраўя, нацыянальна-вызваленчага руху ва ўсім свеце, які разгортваўся пад уплывам Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ды і само адраджэнне Польскай дзяржавы праходзіла пад лозунгам вольнага развіцця польскай нацыі, яе права на незалежную дзяржаву. Заслугоўвалі ўвагі меркаванні «федэралістаў» аб тым, што многанацыянальная дзяржава, якая ўтрымлівае насіллем іншыя народы і аслабляецца міжнацыянальнымі разладамі, рызыкуе разваліцца ад унутраных супярэчнасцей. Свежы прыклад, наглядны і пераканаўчы, быў у наяўнасці — Аўстра-Венгерская манархія, якая распалася ў 1918 годзе. Лозунг федэралізму павінен быў даваць нейкія надзеі нацыяналістычным арганізацыям Беларусі і Украіны, служыць козырам у дыялогу з рускімі белагвардзейскімі генераламі — прыхільнікамі «адзінай і непадзельнай Расіі».

Разам з тым і польскага салдата трэба было пераканаць у тым, што ён пралівае кроў не дзеля нейкіх карыслівых інтарэсаў пануючых класаў, а нясе на Усход вызваленне, дэмакратыю і г. д. Адным словам — ён вызваліцель, а не прыгнятальнік.

Але праграма — адно, а рэаліі жыцця — іншае. Установкі «федэралістаў» былі хутчэй пажаданнем, больш трапна сказаць, прапагандысцкім прыкрыццём, чым арыенцірам для практычнага кіраўніцтва. Яны ўводзілі ў зман недасведчаных у палітыцы людзей, сеялі ілюзіі. Заявамі аб дэмакратыі, аб свабодзе і раўнапраўі народаў прыкрывалася экспансіяністская палітыка пануючых класаў Польшчы, якія заахвочваліся Антантай да вайны з Савецкай краінай.

Урачыстая заява Ю. Пілсудскага, зробленая 22 красавіка 1919 года аб тым, што палякі не збіраюцца сілай зброі ўключаць у склад Польшчы Беларусь, Украіну, Літву, ніяк не вязалася з яго дзеяннямі як кіраўніка дзяржавы. Таму што факт захопу Вільні, у той час сталіцы Літоўска-Беларускай рэспублікі, быў разбойніцкай ваеннай акцыяй, замахам на незалежнасць і суверэнітэт суседніх народаў. Заняўшы Гродна, польскія ўлады раззброілі беларускі полк, які знаходзіўся на службе ў буржуазнай Літвы, арыштавалі многіх беларускіх дзеячаў і разагналі беларускія рады, што зусім не мелі нічога агульнага з бальшавізмам. Ужо на пачатковай стадыі вайны было прадэманстравана, якімі далёкімі ад дэмакратыі метадамі думае Ю. Пілсудскі ствараць федэрацыю на чале з Польшчай.

Заходнія дзяржавы, што падтрымлівалі Польшчу, павінны былі суадносіць тэрытарыяльныя памкненні свайго саюзніка з пазіцыяй белагвардзейскай контррэвалюцыі, якая прытрымлівалася лозунга «адзінай і непадзельнай Расіі». Францыя, а тым больш Англія пазбягалі адкрыта падтрымліваць прэтэнзіі Польшчы на Беларусь, паколькі такая пазіцыя перашкаджала б узаемаразуменню з белымі генераламі. Узнікалі вострыя спрэчкі паміж Ю. Пілсудскім і белагвардзейскімі правадырамі, якія дапускалі ў крайнім выпадку існаванне Польскай дзяржавы ў межах Прывісленскага краю. Польшча ж патрабавала ў іх афіцыйнага пацвярджэння сваіх правоў на Беларусь і іншыя землі, выстаўляючы гэта як адну з умоў ваенна-палітычнага супрацоўніцтва.

У новай сітуацыі, калі пасля перамогі Чырвонай Арміі над Калчаком і Дзянікіным Польшча рабілася галоўнай ударнай сілай у антысавецкіх планах Антанты, гэты момант менш за ўсё стрымліваў польскія кіруючыя колы ў іх тэрытарыяльных памкненнях.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ.**
**(Працяг будзе).**



**Вяселле на Палессі.** **Фота В. БАСЬКО.**

ГИПОТЕЗА СОВЕТСКОГО ИССЛЕДОВАТЕЛЯ

# ПОЧЕМУ НЕОЖИДАННО ПАДАЮТ САМОЛЕТЫ?

Попытка решить знаменитую 6-ю проблему Гилберта привела к реальной возможности довольно точного прогноза авиакатастроф, тайфунов, цунами... Свою особую систему классификаций физических законов, которая позволяет осуществлять такой прогноз, исследователь из Тулы Николай Коровяков назвал «анатомия физики».

В каждую «ячейку» этой системы (разрабатывал он ее 15 лет) попадает тот или иной физический закон. Между ячейками, как между элементами Периодической системы Менделеева, существуют сходства и различия. По словам Коровякова, его классификация позволяет устанавливать общую природу разнородных на первый взгляд физических явлений.

Но это в области теории. На практике же у Коровякова сформировался новый взгляд на внутреннюю структуру нашей планеты и ее взаимодействие с Солнцем и Луной. Картина земного тяготения предстала более дифференцированной. Если всегда считалось, что падающие тела притягиваются к Земле, то теперь, по его мнению, надо уточнять: притягиваются к ядру Земли, к оболочке планеты, к потоку магмы. Такое существенное уточнение позволило Коровякову построить единую картину многих явлений природы, выявить определенные закономерности возникновения таких аномалий, как магнитные бури, ураганы, тайфуны, цунами, извержение вулканов. В свете новой гипотезы приемлемое объяснение получил и Бермудский треугольник. Более того, подавляющее большинство авиационных катастроф, как доказывает исследователь, вызвано гравитационными аномалиями, которые легко рассчитываются, а значит, могут быть предусмотрены.

В эксперименте Коровякова «стаканом» был заполненный водой цилиндр с прозрачной крышкой и вращающимся по центральной оси заостренным книзу стержнем. Роль чаинок играли пластмассовые крошки. Этот гидродинамический волчок показал Коровякову нечто куда более интересное: сбегающееся к центру пятно из «чаинок» имело не случайную, а геометрически правильную форму пятиугольника. Причем в течение суток вершины многогранника перемещались в сторону, обратную вращению Земли.

Это неожиданное наблюдение подсказало экспериментатору: разгадку парадокса следует искать в самой вращающейся планете.

Аналогия была несложной: наша планета — большой гидродинамический волчок. И в ней наблюдается такой же правильный пятиугольник. Зоны аномалий, подобные Бермудскому треугольнику, расположены под углом 72 градуса друг к другу. Их пять, и лежат они в одной плоскости Северного полушария — это и сам Бермудскиай треугольник и «Море Дьявола» близ Японии, район в пустыне Сахара на территории Алжира и еще два «проклятых» места — на Индостанском полуострове и в Атлантике, в районе Нью-Фаунленда.

Пять своих «заколдованных» зон есть и в Южном полушарии. Они также лежат в одной плоскости и расположены в вершинах правильной звезды.

По гипотезе Коровякова, «чаинки» в гидродинамическом волчке показывают, как распределяются силовые направления в потоке вращающейся жидкости. То же самое, говорит он, происходит в недрах планеты, только не вода, а магма, заполняющая внутреннее пространство шара, определяет силовые линии Земли.

Суммарная картина земного тяготения складывается из трех гравитационных составляющих — ядра, магмы и оболочки планеты. А поскольку все три гигантские составляющие Земли находятся в постоянном движении относительно друг друга, взаимодействуют как с близкой Луной, так и с более удаленным, но и гораздо более массивным Солнцем, то картина гравитационного поля отнюдь не так проста, как принято считать.

Каждые полгода ядро Земли ближе то к Северному, то к Южному полюсу. Оно путешествует в океане магмы, которая, как и Мировой океан, испытывает на себе влияние и Солнца, и Луны. Но в отличие от наземного «приливы» и «отливы» подземного океана меняют напряженность гравитационного и электромагнитного полей планеты. К тому же ось Земли не перпендикулярна к плоскости вращения, а наклонена, из-за чего ядро то «подтягивается» к Солнцу, то удаляется от него.

Именно поэтому пятиугольник и нашего гигантского волчка, по наблюдениям Коровякова, зимой и летом ведет себя по-разному, сдвигая свои вершины на 36 градусов.

В пяти районах аномалий на Земле искажения гравитационного поля наиболее сильны, продолжительны, и поэтому здесь так много происшествий, говорит Николай Коровяков. Но возмущения земного притяжения могут возникать и в других местах планеты. В каких? Если взглянуть на глобус сверху, со стороны Северного полюса, от него, как от центра цветка, расходятся пять лепестков, причем заострения тянутся как раз к пресловутым пяти «нехорошим» районам. Вот в этих секторах-лепестках и бывают гравитационные аномалии. В других местах — нет.

В свое время Коровяков составил карту с нанесенными на нее местами наиболее частого падения самолетов. Черные точки покрыли территорию как раз такого лепестка, почти не заходя на свободное место. На территории Советского Союза, к примеру, два таких сектора. Между ними — чистое поле, н[illegible] которым практически не бывает ав[illegible]тастроф.

Еще более [illegible]жная локализация несчастий — по времени. Оказывается, аномалии возникают в строго циклической последовательности. Рассчитать опасные для полетов дни по методике Коровякова легко, зная дни лунных фаз. В течение месяца выпадает 6—7 д[illegible] когда существует вероятность [illegible] летящего самолета угодить в конус гравитационной аномалии. Исключив эти дни из расписания движения авиалайнеров, можно безбоязненно садиться в самолет, летящий над опасной зоной, — ведь катастроф по причинам технических неполадок, ошибок пилотов или диспетчеров аэропортов на порядок меньше, чем необъяснимых, с внезапной потерей радиосвязи. В течение многих лет Коровяков следит за сообщениями об авиакатастрофах во всем мире, сверяя их со своим календарем аномалий. Обычно все сходится: происшествие попадает на зачеркнутый в календаре, то есть «неполетный», день.

Вытекающие из нового взгляда на нашу планету прикладные выводы — лишь один из примеров реализации построенной Коровяковым классификации физических явлений. Все наблюдаемые в природе процессы он разделил на волновые и связанные с перемещениями материальных объектов. В каждой группе процессов выделил источник энергии, пространство и потребителя энергии. Источники энергии разделены на силовое поле, связь и опору. Потребители энергии — на зону формирования сил и материальное тело. Время для волновых процессов связано с категорией пространства, для процессов перемещения материальных объектов оно связано с потребителем энергии.

Таким образом, расчерченные ячейки для всех известных и пока неизвестных физических законов — матрица, позволяющая увязать воедино все разделы физики и все процессы, даже на первый взгляд далекие друг от друга. Классификация Коровякова — одна из серьезных попыток решить так называемую 6-ю проблему Гилберта, поставленную выдающимся ученым в 1900 году. Проблема такова: создать классификационный аппарат, позволяющий заранее раскрывать свойства и реальности существования того или иного физического явления, его воспроизводства и управления. По мнению ряда советских физиков — докторов наук, профессоров, Николай Коровяков серьезно приблизился к решению сложнейшей задачи, поставленной Гилбертом.

**Савелий КАШНИЦКИЙ.**

## ВСТРЕЧА С СЕМЬЕЙ АННЫ ГЕРМАН

*В конце прошлого года в московском издательстве «Плакат» вышел альбом-выставка «Анна Герман», рассказывающий о жизни и творчестве замечательной польской певицы, которая своим искусством внесла большой вклад в укрепление дружбы между Советским Союзом и Польшей. В альбоме более ста фотографий. На них Анна — девочка в узбекском городе Ургенче, где прошло ее детство, студентка Вроцлавского университета, участница художественной самодеятельности и наконец всемирно известная эстрадная певица, выступления которой проходили с огромным успехом в разных странах мира и которую безмерно любили и ценили в нашей стране. Анна Герман оставила нам в наследство десятки советских и польских песен, среди которых, пожалуй, самой любимой и необходимой ей была песня «Надежда».*

*В альбоме также фотографии близких, бесконечно дорогих Анне Герман людей — матери, мужа и сына. С ними по время туристской поездки в Варшаву встретилась сотрудница издательства «Полымя Нина ГАЛИНОВА.*

# ПАМЯТЬ О НЕЙ ЖИВА




Приехав в Варшаву, [illegible]ервым делом узнала телефон-справку адресного стола, и любезная телефонистка обещала мне помочь узнать телефон пана Збигнева Тухольского, мужа Анны Герман. Я хотела передать ему альбом «Анна Герман», который появился у нас в продаже буквально накануне [illegible]ей туристической поездки. Уже [illegible]ез несколько минут мне позвонил пан Тухольский, и мы договорились о встрече. В условленное время приехали Збышки — сын и отец. Оба высокие, с приветливыми застенчивыми улыбками. Сыну исполнилось только 14 лет, но в это трудно поверить — рост его 175 сантиметров, вес 80 килограммов. Збышек-младший говорит по-русски, язык изучает в школе. Он учится в 7 классе. Любит историю, читает много исторической литературы. Живут мужчины вдвоем.

Тухольские были очень благодарны за альбом, им было приятно еще раз слышать, что у нас в стране любят и помнят Анну Герман.

Они пригласили меня поехать к пани Ирме — маме Анны, к которой собрались в гости. В тот день я не смогла поехать на встречу с пани Ирмой, пришлось перенести на следующий день.

После экскурсии по Варшаве я отправилась в гости к пани Ирме. Эта радушная встреча останется навсегда в моем сердце. Через несколько минут знакомства мне казалось, что я знаю эту женщину очень давно. Мы сразу нашли общий язык: она понимала меня, я — ее, не было ни языкового, ни возрастного барьера. Мудрость, доброту и непроходящую грусть излучали ее глаза. Фотографии Анны были повсюду: и в рамках на стене, и на столе. Почти на всех фотографиях у певицы веселая, задорная или грустная улыбка.

— Без фотографий, без пластинок с ее песнями жизнь для меня не имеет смысла, — говорит пани Ирма. — В бессонные ночи я всегда ставлю пластинку и слушаю, слушаю как поет моя девочка...

Пани Ирме очень хочется приехать к нам в Союз, побывать в Средней Азии, где прошли трудные годы ее молодости, на Кавказе, где она родилась, побывать у нас в Белоруссии. Вот только бы здоровье не подвело. Очень много пришлось пережить этой мужественной, трудолюбивой женщине и в годы репрессий, и в годы Великой Отечественной войны, и в послевоенное время, но это не сломило ее дух, не ожесточило: с ней были ее дочь и мать, для которых она была надеждой и опорой.

Пани Ирма родилась и воспитывалась в Советском Союзе, она в 1935 году окончила Одесский университет. В Польше пани Ирма живет с 1946 года. Родина ее мужа стала ее второй родиной. За свой труд преподавателя пани Ирма награждена «Золотым Крестом». Теперь она на заслуженном отдыхе. Зять и внук навещают ее, помогают ей.

Пани Ирма очень любит поэзию, поэтому и дочь ее Анна любила лирические задушевные песни, которые до сих пор живут в сердцах миллионов поклонников ее таланта.

Я подарила пани Ирме несколько строк, которые сложились во время экскурсии по Варшаве:

**Пани Анна,**
**Пусть неровный стих,**
**стиль шершавый,**
**Но сейчас я здесь —**
**в Варшаве,**
**Где была, где жила**
**пани Анна,**
**Та, чья песня жива**
**постоянно.**
**И звучит ее голос**
**чудесный,**
**То в веселой,**
**то в грустной песне,**
**Он течет рекой родниковой,**
**В мире нет такого**
**другого.**
**Придает он уверенность,**
**силы**
**И уносит боль**
**пани Ирмы,**
**И доносится до всевышнего,**
**Чтоб здоровы были**
**оба Збышка.**
**Ну, а я с ней всегда**
**солидарна.**
**Пани Анна,**
**пани Анна...**

Пани Ирму растрогали эти строки, и она попросила сделать перевод нескольких строк с немецкого языка. Я согласилась и перед отъездом оставила этот перевод:

**Над могилой**
**Чем дольше ты там —**
**тебя больше тут,**
**И чем дальше ты,**
**тем живее память.**
**Как насущный хлеб**
**в моем каждом дне**
**Память о тебе,**
**моей жизни пламя.**

Так благодаря песне, вернее, ее исключительному исполнителю, душевному, мужественному человеку — такой была Анна Герман, — ее родные стали близкими мне людьми. Хочется, чтобы все у них было хорошо.

ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ ДАРЭВАЛЮЦЫЙНАГА МІНСКА

# ХАВАЛЬНІК МУЗЕЯ

Беларуская культура дарэвалюцыйнага перыяду выклікае ў нас успаміны аб творчасці драматурга Дуніна-Марцінкевіча, паэтаў Максіма Багдановіча і Францішка Багушэвіча, акцёра Ігнація Буйніцкага, уклад якіх у духоўнае жыццё нашага народа цяжка пераацаніць. Менш звяртаецца ўвагі на тое, што ў беларускай культуры былі і іншыя служыцелі. Яны займалі сціплыя пасады, але тым не менш мелі добрую адукацыю і сумленна выконвалі свае абавязкі ў справе асветы беларускага народа.

У дарэвалюцыйным Мінску інтэлігенцыя была прадстаўлена ў асноўным свяшчэннаслужыцелямі, настаўнікамі, журналістамі і ўрачамі. Мінскія інтэлігенты ведалі пра багатае гістарычнае мінулае Белай Русі. Слядоў яго хапала і ў самім горадзе: часта ў раёне Нямігі знаходзілі старадаўнія манеты і клады, старажытныя і загадкавыя рэчы, а іншы раз і косці, побач з якімі ляжала зброя і даспехі. У асяроддзі інтэлігенцыі ўзнікла пытанне аб неабходнасці вывучэння і захавання помнікаў гісторыі і культуры краю.

На неабходнасць стварэння ў Мінску ўласнага археалагічнага музея ўпершыню звярнуў увагу грамадскасці выкладчык Мінскай духоўнай семінарыі Дзмітрый Скрынчанка. Ён нарадзіўся ў 1875 годзе ў сям'і беднага сельскага псаломшчыка Варонежскай губерні, украінца, ці, як тады гаварылі, малароса. У 1901 годзе Д. Скрынчанка стаў кандыдатам Казанскай духоўнай акадэміі, затым на працягу двух гадоў выкладаў у Пермскай і Старарускай духоўных семінарыях. З 1903 года Скрынчанка працуе настаўнікам лацінскай мовы ў Мінскай духоўнай семінарыі. Неўзабаве за стараннe ў службе ён атрымаў чын калежскага асэсара, што дало права на дваранства.

Спачатку беларуская гісторыя мала займала маладога выкладчыка лацінскай мовы (у 1905 годзе Д. Скрынчанка адначасова стаў і рэдактарам газеты «Минские епархиальные ведомости»). Ён цікавіўся падрабязнасцямі не вельмі даўняга польскага паўстання, а таксама польскага нацыянальнага руху. У хуткім часе на старонках газеты пачалі з'яўляцца артыкулы і нарысы Д. Скрынчанкі.

Мяркуючы, што праваслаўнай царкве ў краі пагражаюць польскія нацыяналісты, Д. Скрынчанка публікуе артыкул з прапановай арганізаваць у горадзе музей археалогіі для захавання і паказу царкоўных каштоўнасцей, ікон і іншых рэчаў. Рэдактар газеты «Минские епархиальные ведомости», абгрунтоўваючы неабходнасць стварэння ў горадзе музея, пісаў: «Народ, які не любіць і не захоўвае помнікаў роднай мінуўшчыны, не мае права называцца культурным народам і як народ не мае будучыні».

Варта прызнаць, што прычыны, па якіх мінскае духавенства падтрымала ідэю Д. Скрынчанкі аб стварэнні ў горадзе царкоўна-археалагічнага камітэта і музея, мелі не навуковую, а царкоўна-манархічную аснову. Тым не менш прапанова аб заснаванні ў Мінску ўласнага таварыства па вывучэнню старажытнасцей выклікала цікавасць не толькі ў духоўных асоб, але і ў асяроддзі настаўніцкай інтэлігенцыі. Устаноўчы сход па адкрыццю царкоўна-археалагічнага камітэта адбыўся 15 красавіка 1907 года ў архірэйскім доме, у двух пакоях якога і размясціўся музей.

Кіраўніцтва камітэта ўзначаліў дырэктар народных вучылішчаў Н. Былоў (пасля яго смерці гэтую пасаду заняў А. Снітко). Д. Скрынчанку даручалася пасада хавальніка царкоўна-археалагічнага музея; адначасова, не спыняючы выкладчыцкай работы ў семінарыі, ён працягваў рэдагаванне газеты, а таксама заняўся вывучэннем беларускай гісторыі і філасофіі.

Афіцыйнае адкрыццё царкоўна-археалагічнага музея адбылося 13 лютага 1908 года, дзе Д. Скрынчанка выступіў з невялікай прамовай. Дзеля ісціны неабходна адзначыць, што па сваіх перакананнях Д. Скрынчанка быў манархістам і падтрымліваў царскую палітыку ў адносінах Польшчы. Таму прамоўца абгрунтоўваў неабходнасць стварэння гарадскога музея ў першую чаргу не краязнаўчымі і навуковымі інтарэсамі, а патрабаваннем выратавання царкоўнай даўніны ад разбурэння палякамі.

Аднак сваёй новай работай Д. Скрынчанка быў задаволены і заняўся ёю з уласцівымі яму ўважлівасцю і добрасумленнасцю. Абавязкаў у хавальніка музея было шмат: яму трэба было весці ўлік прадметаў, што паступалі ў музей, сачыць за іх захаванасцю, весці гадавую справаздачу аб музеі і, зразумела, вызначаць каштоўнасць экспанатаў, якія паступалі. Акрамя гэтага, загадчык музея (хавальнік) займаўся складаннем спецыяльнага музейнага архіва і гістарычнай бібліятэкі.

З просьбай да духавенства краю аб захаванні і перадачы ў музей прадметаў царкоўнай даўніны Д. Скрынчанка не адзін раз звяртаўся

# НЕ ПРАРАСЦЕ ТРАВА ЗАБЫЦЦЯ



Гэты паўразбураны будынак стаіць у вярхоўях Нёмана. Тут у другой палове мінулага і пачатку гэтага стагоддзяў жыў і працаваў Якаў Наркевіч-Іодка — вядомы беларускі вучоны. Ён распрацаваў спосаб фатаграфавання з выкарыстанн[...] электрычнасці, быў адным з першы[...]о адкрыў магчымасць перадачы рады[...]гналаў на адлегласць без правадоў. У 1890 годзе з дапамогай створанай па яго сістэме «атмасферычнай станцыі» былі прыняты сігналы, якія загадзя прадказваюць навальніцу. Яшчэ праз сем гадоў вучоны абсталяваў у Над-Нёмане (так завецца месца, дзе стаіць яго фальварак) сельскага[...]арчую метэастанцыю першага разраду, [...] ўвайшла ў сетку галоўнай расійскай фізічнай лабараторыі. Заўважыўшы, што электратокі ў некаторых выпадках аказваюць лячэбнае ўздзеянне на арганізм, Якаў Атонавіч распрацаваў метад электрамасажу.

За работы ў практычнай медыцыне Наркевіча-Іодку зацвердзілі членам-супрацоўнікам Інстытута эксперыментальнай медыцыны ў Пецярбургу. Адкрыцці і распрацоўкі, зробленыя ў электраграфіі, па атмасфернай электрычнасці адзначаны ордэнам Святой Ганны II ступені і сярэбраным медалём Рускага геаграфічнага таварыства.

Вядома, што Якаў Атонавіч вучыўся ў Маскве і Парыжы. Навуковай дзейнасцю заняўся ў 1872 годзе, пасяліўшыся ў Над-Нёмане. У гэтым глухім кутку Беларусі абсталяваў лабараторыі, стварыў сапраўдны навуковы цэнтр і ўжо вельмі рэдка выязджаў адсюль. За адасоблены лад жыцця сучаснікі назвалі яго «пустэльнікам», а ён за чвэрць стагоддзя дабіўся выдатных вынікаў на стыку розных навук: фізікі, медыцыны, аграноміі, метэаралогіі, хіміі. Памёр вучоны ў 1905 годзе. Многія яго навуковыя працы не дайшлі да нас. Але захаваліся публікацыі аб ім у газетах і часопісах таго часу.

Імя Якава Наркевіча-Іодкі зноў вернута нашчадкам. Знойдзены шэраг дакументальных крыніц, у тым ліку кніга француза Марыуса Дэкрэпа, якія праліваюць святло на дзейнасць вучонага з Над-Нёмана. Цяпер імя Наркевіча-Іодкі ўнесена ў энцыклапедыю, выпушчана кніга «Прафесар электраграфіі і магнетызму», у экспазіцыі Уздзенскага краязнаўчага музея яму прысвечаны раздзел.

**НА ЗДЫМКАХ: Якаў НАРКЕВІЧ-ІОДКА; метэаралагічная вежа і частка фасада дома ў нашы дні; парадныя вароты; частка экспазіцыі Уздзенскага краязнаўчага музея, прысвечаная Я. Наркевічу-Іодку.**

**Фота Г. СЯМЁНАВА.**







праз рэдагуемую ім газету «Минские епархиальные ведомости». Кіраўніцтва мінскай епархіі таксама давала сельскім праваслаўным свяшчэннікам адпаведныя распараджэнні. І праз некаторы час музейны фонд склаў сотні адзінак захоўвання.

Хавальнік музея Д. Скрынчанка пастаянна прымаў ад наведвальнікаў старажытныя рэчы, якія мелі часта вялікую навуковую і мастацкую каштоўнасць. У музей прыносілі экспанаты свяшчэннікі, семінарысты, настаўнікі, гімназісты, простыя сяляне. Неслі старажытныя евангеллі, царкоўныя прылады, крыжы, часта вельмі старажытнае адзенне духавенства, а разам з імі манеты і клады, старадаўнія прылады працы, акамянелыя косці жывёл і нават часткі метэарытаў.

Несумненна, Д. Скрынчанка быў глыбока задаволены тым, што кіраўніцтва Мінскага духоўнага вучылішча таксама клапацілася аб арганізацыі музея. Выкладчыкі семінарыі, дзе ён працягваў працаваць, не толькі дарылі царкоўна-археалагічнаму музею рэчы, але і ахвяравалі грашовыя сумы. Дзякуючы гэтаму Д. Скрынчанку ўдалося набыць для калекцыі музея частку экспанатаў калекцыі вядомага беларускага археолага Татура, у ліку якіх і вельмі старадаўнюю ікону «Знак маці боскай».

У царкоўна-археалагічным музеі ішла інтэнсіўная работа па збору і вывучэнню прадметаў даўніны, пра што паведамляў ужо і сталічны пецярбургскі друк. Аднак, як лічыў Д. Скрынчанка, аднаго толькі збірання каштоўных прадметаў было недастаткова. Для агляду архітэктурных помнікаў і збору экспанатаў узнікла неабходнасць арганізацыі экспедыцыі ў шэраг старажытных беларускіх гарадоў.

Першая паездка Д. Скрынчанкі ў Бабруйск дала ў археалагічных адносінах мала вынікаў, таму што яго цікавілі толькі старажытнасці рускага праваслаўя. Усё ж з Бабруйска ён прывёз каштоўную калекцыю манет і нямала старадаўніх царкоўных дакументаў, падораных музею прадстаўніком мясцовай рускай інтэлігенцыі, інспектарам народных вучылішчаў.

Больш цікавай была паездка ў Барысаў разам з А. Снітко, дзе Д. Скрынчанку ўдалося знайсці каштоўныя царкоўныя рукапісныя кнігі. З часу вайны 1812 года прайшло стагоддзе, але ўсё ж паблізу горада захавалася мноства слядоў разгрому Вялікай арміі. Сведкамі даўніх змаганняў былі не толькі земляныя ўмацаванні. Д. Скрынчанка назіраў, як у час расчысткі рэчышча Бярэзіны з рачнога пяску і глею пастаянна здабываліся штыкі, колы, гузікі, іншыя прадметы, якімі карысталіся салдаты арміі Банапарта. У сялян вёскі Студзенка, дзе знаходзілася славутая пераправа, можна было купіць гузікі, кулі, манеты, што адносяцца да 1812 года.

Найбольшае краязнаўчае значэнне мелі паездкі Д. Скрынчанкі ў Пінск і Тураў, таму што ставілася мэта не толькі апісання старадаўніх цэркваў, але і прамых археалагічных даследаванняў.

На правядзенне раскопак меўся афіцыйны дазвол з Пецярбурга. У Пінску члены царкоўна-археалагічнага камітэта (разам з Д. Скрынчанкам і А. Снітко ў экспедыцыю выехаў і А. Паноў) абмежаваліся аглядам старажытных цэркваў і самога горада. Д. Скрынчанка выявіў нямала прадметаў, якія былі цікавыя для музея: старажытныя іконы, прычым адна з іх — італьянскай работы, статуі, царкоўнае адзенне, старадрукаванае Львоўскае евангелле 1696 года, старажытныя царкоўныя прылады.

Найвялікшую цікавасць у хавальніка мінскага музея выклікала паездка ў Тураў. Афіцыйна мэтай паездкі была неабходнасць даследавання выяўленага на гарадскіх могілках старажытнага і загадкавага пахавання. Д. Скрынчанка ўпершыню прымаў удзел у археалагічных раскопках. На старых Барысаглебскіх могілках экспедыцыя, карыстаючыся паведамленнямі мясцовых жыхароў, выявіла старажытны каменны саркафаг, а ў ім — рэшткі чалавечага шкілета. Акрамя некаторай колькасці залатых ніцей, ніякіх прадметаў у пахаванні не было.

Д. Скрынчанка заняўся ў Тураве таксама складаннем планаў і чарцяжоў мясцовасці з мэтай будучых даследаванняў. Члены царкоўна-археалагічнага камітэта, вядома, агледзелі гарадскія цэрквы, адкуль частка прадметаў была перададзена ў музей.

Пасля вяртання з экспедыцыі Д. Скрынчанка зноў заняўся работай па сістэматызацыі экспанатаў, якія паступалі ў музей. Сюды прыносіліся, часцей за ўсё ў выглядзе дароў ад мясцовай інтэлігенцыі, сотні прадметаў, у тым ліку іконы, царкоўныя рэчы, зброя, манеты, кнігі, фатаграфіі, гравюры, карты, рукапісы, старадаўняе адзенне. Адначасова з гэтым Д. Скрынчанка пачаў рэдагаваць зборнік «Минская старина», у які ўвайшлі дакументы і матэрыялы аб мінулым Мінскай губерні. Уключаная ў зборнік работа Д. Скрычанкі «Беларусы, іх гутарковая і кніжная мова», як і кніга «Каштоўнасць жыцця па рэлігійнаму і хрысціянскаму веравучэнню», выйшлі асобным выданнем у Пецярбургу.

Д. Скрынчанка працаваў хавальнікам Мінскага царкоўна-археалагічнага музея да 1912 года. Навуковая каштоўнасць апублікаваных ім прац невялікая, але заслугі гэтага чалавека ў справе вывучэння гісторыі нашага краю істотныя. Царкоўна-археалагічны музей, якім ён загадваў, стаў адным з культурных цэнтраў перадрэвалюцыйнага Мінска. Можна сказаць, што на базе царкоўна-археалагічнага музея пазней узнік наш Беларускі дзяржаўны музей. У першыя гады пасля грамадзянскай вайны ён размяшчаўся ў тых жа памяшканнях і меў аддзел царкоўных каштоўнасцей.

**Георгій ВАЛАСЕВІЧ.**

**З НАРАДЫ МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

# ПЛЮСЫ І МІНУСЫ

**У сярэдзіне мая ў маладзёжным цэнтры «Алімпіец» у Маскве адбылася VI Усесаюзная нарада маладых пісьменнікаў. З усёй краіны з'ехаліся на гэту сустрэчу пачынаючыя літаратары.**

**Адным з пасланцоў Беларусі на нарадзе быў пісьмен[illegible] Алесь НАВАРЫЧ. З ім гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

*— Алесь, раскажыце, калі ласка, пра нашу дэлегацыю.*

— Ад рэспублікі было дэлегіравана сем чалавек. Анатоль Сыс — паэт, выдаў два паэтычныя зборнікі. Галіна Тычка — літаратурны крытык. Аляксандр Лукашук — публіцыст. Андрэй Федарэнка спрабуе сябе ў прозе, ён самы малады сярод усіх — яшчэ вучыцца на трэцім курсе Мінскага інстытута культуры. Уладзімір Сауліч са Слоніма — пачынаючы драматург. Лявон Пранчак, як і я, — празаік. Сяргей Сокалаў-Воюш — паэт. Апошні з пералічаных дэлегатаў, прынамсі, у Маскву не трапіў. Па той простай прычыне, што арганізатары — Саюз пісьменнікаў СССР і ЦК ВЛКСМ зусім не паклапаціліся пра білеты. А трапіць у Маскву напярэдадні маючага адбыцца першага З'езда народных дэпутатаў было вельмі няпроста. І мы таксама дабіраліся да сталіцы з вялікімі цяжкасцямі.

Увогуле ж удзельнічалі ў нарадзе 600 чалавек. Сярод іх былі, так бы мовіць, правадзейныя члены і вольныя слухачы.

*— А што гэта за дзве катэгорыі ўдзельнікаў?*

— Гэта звязана з новымі прынцыпамі сёлетняга адбору на нараду. Упершыню трапілі не толькі тыя, каго рэкамендаваў Саюз пісьменнікаў, але і ўдзельнікі ўсесаюзнага конкурсу. Ён быў праведзены напярэдадні падзеі, і ў ім мог прыняць удзел кожны, хто пажадае. Паступіла, дарэчы, 1 500 рукапісаў ад маладых прэтэндэнтаў. Іх рэцэнзавалі і рэкамендавалі для абмеркавання на семінары вядомыя пісьменнікі, і рэдактары цэнтральных часопісаў — Залыгін, Бакланаў, Прыстаўкін, Васільева, Рэкемчук, Старшынаў, Дзяменцьеў. 250 чалавек на конкурсе атрымалі па дзве станоўчыя рэцэнзіі і былі запрошаны на нараду. Акрамя таго, вольнымі слухачамі сталі яшчэ 30 канкурсантаў. А 300 чалавек былі рэкамендаваны на нараду ад Саюза пісьменнікаў.

*— Наколькі я зразумела, арганізатары нарады ўсяляк імкнуліся адысці ад канонаў і стэрэатыпаў правядзення традыцыйнага ўжо мерапрыемства. Меркавалася, што, акрамя семінарскіх заняткаў, якія будуць весці вядомыя савецкія пісьменнікі, адбудуцца сустрэчы з вучонымі-грамадазнаўцамі, партыйнымі і савецкімі работнікамі, прадстаўнікамі прэсы... Якое ваша ўражанне ад нарады?*

— Я ўпершыню [illegible]лаў удзел у такім мерапрыемстве. І многага чакаў ад нарады. Але вялікія спадзяванні, як правіла, не спраўджваюцца. Так і тут. Раскажу больш дэтальна. На нарадзе дзейнічала 26 творчых семінараў, дзе прайшлі абмеркаванні рукапісаў. Не ведаю, як на паэтычных семінарах, але «празаікі» мяне расчаравалі. Па-першае, было даволі сумна ўсё арганізавана. Скажам, ідзе абмеркаванне апавяданняў. Аўтар з дрэннай дыкцыяй ды яшчэ з акцэнтам каля гадзіны чытае свой твор, рускі падрадкоўнік з якога зроблены вельмі кепска. Я гэта добра разумею, бо калі мы, беларусы, ад'язджалі ў Маскву, пераклад на рускую мову нашых твораў рабіўся малапрафесійнымі людзьмі. Таму і ацаніць таго ці іншага аўтара па вартасці, як мне ўяўляецца, было даволі складана. Такім чынам, атрымліваецца не прафесійная вучоба, а проста прафанацыя мэт усесаюзнай нарады.

Надзвычай карысным для мяне, ды і для астатніх было знаёмства з пісьменнікамі, якія маюць шырокую вядомасць. Многае далі мне таксама сустрэчы і гутаркі з равеснікамі, якія спрабуюць сілы на літаратурнай ніве. У гасцініцы, дзе мы жылі, наладжваліся неафіцыйныя «вячэрнія пасяджэнні», якія зацягваліся да позняй ночы. Гутаркі і спрэчкі вяліся па самых вострых праблемах нашага жыцця. Высветлілася, што мы, прадстаўнікі розных нацыянальнасцей, да крыўднага мала ведаем адзін пра аднаго. Аказалася, што для маіх маладых субяседнікаў з іншых рэспублік і наша паэзія, і проза — суцэльная белая пляма.

Не магу не адзначыць, што для многіх маладых літаратараў гэта нарада стала вельмі значнай падзеяй у жыцці. Найбольш таленавітыя і актыўныя непасрэдна на самой нарадзе былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў. З нашай дэлегацыі такім шчаслівчыкам стаў Леанід Пранчак. Яго кніга вершаў сёлета выйшла ў выдавецтве «Юнацтва».




**Першы аўкцыён рэдкіх кніг адбыўся ў Брэсце. На ім было прадстаўлена больш за пяцьдзесят выданняў, у ліку якіх «Энцыклапедычны слоўнік» Ю. Паўленкава, што выйшаў у свет у 1910 годзе, «Адмірал Ушакоў у Міжземным моры» гісторыка Тарле і іншыя. Арганізатар аўкцыёна — Брэсцкі абласны кнігагандаль — мае намер такую форму продажу літаратуры зрабіць традыцыйнай.**

**НА ЗДЫМКУ: гэтыя кнігі разыгрываліся на аўкцыёне.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

## НА СЦЭНАХ ФІНЛЯНДЫІ

У Фінляндыі з поспехам прайшлі гастролі Дзяржаўнага фінскага драматычнага тэатра, які працуе ў Петразаводску. У афішы яго значыцца і спектакль па п'есе А. Дударава «Звалка». Пераклад на фінскую мову зрабіў акцёр тэатра Орва Б'ёрнінен.

Гастролі тэатра з Карэліі праходзілі ў гарадах Оўлу, Йоенсуу, Кемі, Суомусалмі, Варкаус, Савонліна, Лаперанта, і ў кожным з іх паказваўся спектакль «Звалка».

П'еса беларускага пісьменніка карысталася вялікім поспехам у фінскіх гледачоў, пра што сведчаць шматлікія рэцэнзіі ў газетах «Ціедантая», «Кансантахто» і «Савонсаномат».

## КУПАЛАЎЦЫ Ў ГАБРАВЕ

Кажуць, што калі ў балгарскім горадзе Габраве пафарбавалі нядаўна будынак Драматычнага тэатра імя Рачы Стаянава, дык каля сцен, каб людзі не пэцкаліся, павесілі не звычайную аб'яву «Асцярожна, пафарбавана!», а зусім іншую — «Беражыце фарбу!». У тым, што гэта сапраўды так, вырашылі пераканацца артысты Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, прыняўшы запрашэнне паказаць у Габраве спектакль «Мудрамер» М. Матукоўскага ў праграме традыцыйнага фестывалю гумару і сатыры.

Такі міжнародны фестываль праводзіцца раз у два гады. Пачынаецца ён звычайна маляўнічым карнавальным шэсцем, у якім удзельнічаюць усе габраўцы і госці фестывалю. Сёлета ў час такога шэсця вызначаліся аўтарытэтным журы і лепшая маска (конкурс персанажаў габраўскага гумару), карціна, намаляваная пластыкай саміх удзельнікаў шэсця, лепшы аматарскі аркестр, жартоўны касцюм для сабакі, а таксама... прадпрыемства, якое найбольш жорстка крытыкавалася ў мінулым годзе.

## ВЫДАДЗЕНА Ў ТАШКЕНЦЕ

У адным з сталічных выдавецтваў Узбекістана — «Ёш гвардия» — пабачыў свет зборнік казак народаў СССР. Кніжка выйшла на рускай мове.

Беларускі казачны фальклор прадстаўляюць тры творы — «Лёгкі хлеб», «Кот Максім», «Сіняя Світа навыварат шыта». Тыраж зборніка «Дарогамі казак» — 500 тысяч экземпляраў.

*АДКУЛЬ ПАХОДЗІЦЬ НАЗВА?*

# ЗАСНАВАНЫЯ КРЫВІЧАМІ

Слова Віцебск (так тлумачаць шматлікія гістарычныя даведкі) утворана ад назвы ракі Віцьбы. Летапісныя варыянты напісання— Відьбеск, Вітбск, Відебск, Вітепеск, Вітбек, Дбеск, Вітебско. Прагляд гістарычнай літаратуры даў нам падставу вылучыць яшчэ адзін пункт гледжання на паходжанне назвы аднаго са старажытных гарадоў Беларусі.

У шматтомнай працы славутага гісторыка Сяргея Салаўёва «Гісторыя Расіі» пра рассяленне славянскіх плямёнаў на тэрыторыі Беларусі згадваецца: «За дрыгавічамі рухаюцца палачане, тоесныя крывічам. Старыя гарады ў іх былі: Ізборск, Полацк, Смаленск, пазней страчаемы ў летапісах Тарапец, сярод простага люду званы зараз Крывіцебск, Крывіг, Крывіч».

Хутчэй за ўсё ў вуснай гаворцы на момант збору матэрыялу гісторыкам яшчэ цыркулявалі найстаражытнейшыя назвы Тарапца. Падабенства першай з іх з назвай горада на сутоках Дзвіны і Віцьбы неаспрэчнае. Гэта дазваляе меркаваць, што назва Віцебск утварылася не ад гідроніма «Віцьба», а пайшла ад найменя «крывічы». Якім чынам? Магчыма, старажытны тапонім «Крывіцебск» мігрыраваў уніз па Заходняй Дзвіне ад Таропы да Віцьбы, на якой замацаваўся і з цягам часу страціў часцінку Кры. Не менш верагодна, што Віцебск, заснаваны крывічамі, з самага пачатку зваўся Крывіцебскам. Калі гэта так, то кірунак міграцыі тапоніма не ўніз, а ўверх па Дзвіне, што больш адпавядае гістарычнаму руху крывічоў. Як вядома, яны пакінулі шмат назваў, пазначаных этнічнай прыналежнасцю: Крывіна, Крыўляны, Крэва, Крэйванцы, Закрэўе, Крыўск, Крывічаны і г. д. Прыкладаў жа міграцыі і трансфармацыі назваў тапаніміка мае багата.

Цяпер паспрабуем правесці яшчэ адно параўнанне — з тапонімам Полацк (у летапісах Полотьск, Полтеск, Полотеск). Гамалагічны рад Полотеск-Вітепеск-Крывітебск абагульняе фанетычна амаль аднолькавы суфікс. На нашу думку, усе гэтыя тапонімы двухсастаўныя, іхняя другая частка абазначыла нейкую характэрную акалічнасць узнікнення гарадоў ці асаблівасць іх існавання. Найстарадаўнейшыя гарады Полацкай зямлі нараджаліся ў адметных варунках. Сходная гісторыя прагледжваецца і ў гарадоў Смаленскага княства. Прагарадамі тут з'явіліся ўмацаваныя пункты славян, пабудаваныя пры рассяленні іх у VIII—IX стагоддзях. Такім чынам, сэнс старажытнага кораня песк, беск, дебск, які азначаў, магчыма, наяўнасць дзядзінца, пасада, курганнага некропаля ці гандлёва-рамеснай дзейнасці ў крывіцкіх гарадах, трэба шукаць у балцкіх і угра-фінскіх мовах, калі тапонімы неславянскага паходжання. Тым не менш і старабеларуская мова захавала падобнае слова — тэскнити—журыцца, сумаваць.

А пакуль што можна сцвярджаць, што разам з Полацкам і Віцебскам Тарапец з'яўляўся значным апорным каланізацыйным пунктам у руху крывічоў па Заходняй Дзвіне і яе прытоках. Як і некаторыя гарады Полаччыны, у XIII стагоддзі Тарапец стане сталіцай удзельнага княства, вылучанага са Смаленскага.

**Міхась ПАЎЛАЎ,**
**Мікола НАМЕСНІКАЎ.**

## спорт

**Удала пачала сёлетні сезон кідальніца кап'я мінчанка Наталля Шыкаленка.** Пасля поспехаў на міжнародных спаборніцтвах у Сочы, Рызе, Валгаградзе яна дамаглася перамогі і на чарговым этапе розыгрышу турніру «Гран-пры» ў Браціславе. Беларуская спартсменка кінула кап'ё на 63 метры 84 сантыметры.

**Галіна Савіцкая, Ірына Сумнікава і Алена Ксенжык з Мінска былі ўключаны ў зборную краіны на першынство Еўропы па баскетболу, якое прайшло ў Варне.** Савецкія спартсменкі перамаглі ўсіх саперніц і заваявалі залатыя медалі. Найбольш рэзультатыўна гуляла ў Балгарыі капітан зборнай СССР Галіна Савіцкая.

**Працягваюцца гульні міжнароднага тэніснага турніру серыі «Вірджынія Слімз».** У Лондане мінчанка Наталля Зверава і Ларыса Саўчанка з Львова ў парнай фінальнай сустрэчы выйгралі ў амерыканак Пат Шрайвер і Мерадзіт Макгрэт — 7:5, 5:7, 6:0. Цяпер вядучыя тэнісісты свету рыхтуюцца да вядомага Уімблдонскага турніру.

**Валейбалісткі мінскага «Камунальніка» прадстаўлялі нашу краіну на міжнародным турніры на Кубак прынцэсы Таіланда.** Беларускія спартсменкі дайшлі да фіналу, дзе ў рашаючай сустрэчы выйгралі ў зборнай каманды правінцыі Фунцзянь (КНР) — 3:1.

**Дзесяць вышэйшых узнагарод — пераканаўчая перамога савецкіх спартсменаў на міжнароднай рэгаце па веславанню на байдарках і каноэ.** Яна прайшла пад Парыжам. З двума сярэбранымі медалямі вярнулася з гэтых спаборніцтваў Надзея Кавалевіч з Гродна.

*РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ*

# НАД БЛАКІТНАЙ ПЛЫННЮ

Наша лодка ціха плавала і толькі крыху гойдалася, калі я адпіхваўся вяслом. Пах лозаў і паводкавай вады ахопліваў [illegible]с. З поўдня ветрык падганяў [illegible]ло, а над блакітнаю плын[illegible] Нёмана ўсход рассейваў світанак. Нёман быў удумлівы і ласкавы. Бледна-блакітная роўнядзь вады пералівалася і зіхацела ад першых промняў сонца.

Луг заліты паводкавымі во[illegible]мі аж да лесу, можа на які [illegible]зметр з гакам. Толькі сям[illegible] на абалонні чарнеюць грудкі. Асабліва вызначаецца высокі груд, што каля лесу. Ён падобны на стажок сена.

Праляцеўшы над намі, ключы пералётных птушак зніжаліся і каля высокага груда садзіліся на ваду. З-за шырокага лазовага куста нам добра было відаць, як кучкамі асобна плаваюць крыжанкі, цыранкі, лысухі, вадзяныя курачкі, ныркі, гусі. Яны селі, каб пасля доўгай дарогі падсілкавацца. Глядзім як то адна, то другая качка кульнецца ў ваду хвастом уверх і дастае з дна малюскаў, чарвячкоў, лічынкі. Усе адчуваюць сябе ў бяспецы, снедаюць ласкава, памяркоўна, без зайздрасці.

Паплаваўшы, падсілкаваўшыся, крыжанкі чародкамі выходзілі на груд і, гамонячы паміж сабою, парамі садзіліся адпачыць. Гусі, гагонячы, кіраваліся па вадзе, кнігаўкі і чайкі з крыкам імкліва ляталі над воднаю прастор[illegible]. Навокал панаваў нязм[illegible]ы гул, гоман, свіст, гогат.

Раптам з крыкам уся маса качак узнялася ў паветра. «Хто іх настрашыў?» — падумаў і глянуў на груд. З лесу паказаўся арол, ён высока плыў у небе. Імгненна пайшоў у піке на выбраную ім ахвяр[illegible]асягнуўшы яе, стукнуў св[illegible] моцнай дзюбай, і качка ўпа[illegible] ў ваду. Арол узняўся, зрабіў невялікі круг, потым знізіўся да вады, ухапіў лапамі сваю здабычу і накіраваўся ў лес.

Паступова спалох сціх, на розныя галасы прагучала ў паветры пераклічка, і гусі пачалі ўзнімацца ў паветра, будаваць ключ, які сваім вострым канцом накіроўваецца на поўнач. Ад іх ляцела манатоннае: га-га-га. Качкі адляталі кучкамі ціха, некаторыя пары ўзнімаліся са спазненнем, нібы не хацелі пакідаць гэты цудоўны нёманскі куточак.

Над плынню ляталі, перакліkаліся і пікіравалі ў плынь толькі чайкі і кнігаўкі, нібы ў іх не было іншых клопатаў.

«Каб усё гэта было вечна», — падумаў я, плывучы назад.

**Яўген КРАМКО.**





У беларускай сталіцы гасціла дэлегацыя зямлі Ніжняя Аўстрыя. Госці перадалі дзецям, што жывуць па вуліцы Танкавай, гульнёвую пляцоўку, абсталяванне якой падаравана аўстрыйскай фірмай «Крайбург эласцік».

НА ЗДЫМКАХ: бургамістр горада Хаак Йозеф ЙАХІНЕГЕР з мінскай дзятвой; на новай гульневай пляцоўцы.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

### ЦЯЛЯЦІНА АШМЯНСКАЯ

Пакрышыць моркву, корань пятрушкі, сельдэрэй. Змяшаць з гарчычным парашком. Нашпігаваць цяляціну. Замарозіць мяса ў шчыльнай пасудзіне на некалькі дзён. Тушыць больш чым 1 гадзіну, палiваючы растопленым тлушчам. Падліць смятану і далей тушыць, пакуль смятана не зарумяніцца. Падаваць на стол гарачай.

Лапатка, сала, морква, пятрушка, сельдэрэй, 3-4 лыжкі смятаны, 3 лыжкі гарчыцы (парашку).

### АКУНЬ А-ЛЯ РАДЗІВІЛ

Пачысціць і зняць скуру з акуня. Выняць косці з мяса. Косці і галаву варыць у кубку навару з гародніны. Сцадзіць, укінуць грыбы, магі, віно. Засмажыць лыжку мукі ў лыжцы масла, развесці рыбным наварам, убіць жаўткі і трымаць на цёплым месцы. Парэзаць рыбу на роўныя кавалкі, пасаліць, варыць на малым агні 10 мінут у 1/2 кубка вады. Палажыць на пражаны хлеб і паліць падліўкаю.

Акунь, 1 кубак віна, 4 жаўткі, 5 грыбоў, 3 лыжкі масла, мука, перац, соль, кавалачак магі.

### МІРСКАЯ ДРАНКА, АБО БУЛЬБЯНАЯ АПАЛЬКА

Размяшаць з мукой соду або парашок да пячэння. Падкалаціць гэтай мукою драную бульбу. Укінуць скваркі, вымяшаць, улажыць у форму або глыбокую патэльню, тушыць 1—2 гадзіны (у залежнасці ад таўшчыні дранкі і тэмпературы духоўкі). Падаваць з кіслай смятанай.

### ХРУШЧЫ

У невялікую колькасць мукі ўбіць яйкі, дабавіць цукар, малако, гарэлку. Змяшаць муку з пудрай, дасыпаць у цеста, пакуль яно зробіцца здатным да качання. Раскачаць, парэзаць на кавалкі, на сярэдзіне кожнага прарэзаць дзіркі, павыварочваць. Грэць тлушч у каструлі з высокімі берагамі. Смажыць з двух бакоў. Як астынуць, пасыпаць цукрам-пудрай.

4 яйкі, 1/2 кубка цукру, 1/2 кубка малака, крыху солі, 2-3 лыжачкі цукровай пудры, мука, чарка гарэлкі.

## ПЛЫВЕЦ З ЛЕСУ

Адпачываючыя, якія купаліся ў Камсамольскім возеры ў Мінску, былі нямала здзіўлены, выявіўшы ў сваёй кампаніі... лася. Лясны прыгажун, не спяшаючыся, перасек уздоўж усю акваторыю, выйшаў на бераг побач з аматарамі бегу, якія ветліва прыпыніліся, і знік у паркавай зеляніне.

Візіты ласёў у населеныя пункты не рэдкасць для нашай рэспублікі. І падобныя сустрэчы бываюць тым часцей, чым больш шматлікая іх сям'я. Але паяўленне дзікага звера амаль у цэнтры сталіцы — выпадак незвычайны.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44,
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80,
33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63854. Зак 737